# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Востробрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Нясрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 50 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з дост. да хаты). Цана абвесток: перад тэкстам 200 мк., ззаду тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Субота 7-га кастрычніка 1922 г. № 24 (49).


# 16—ГРАМАДЗЯНЕ!—16

Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт, які аб'еднаў прадстаўнікоў усіх партый і груп беларускага грамадзянства, у згодзе з усімі Беларускімі Акружнымі, Павятовымі, Гмінными і Абводавымі Выбарнымі Камітэтамі, гэтым абвяшчае нумэр сьпіску кандыдатаў у Сойм і Сэнат, за які павінны падаць свой голас усе выбаршчыкі-беларусы бяз розьніцы веры і партыйнае прыналежнасьці:

гэта — **шаснаццаты** нумэр.

Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт змовіўся з усімі іншымі нацыянальнасьцямі Польскага гаспадарства, што знаходзяцца ў такім-жа бясправаўным палажэньні, як і Беларусы, каб усе яны на выбарах выступалі пад тым-жа нумэрам **шаснаццатым**, нумэрам **Блёку (хаўрусу) Нацыянальных Меншасьцей Польскае Рэчыпаспалітае.**

Для беларускіх акругоў на гэты сьпісак упісаны імёны кандыдатаў, якіх выставіў сам Беларускі Народ на сваіх перадвыбарных сходах і зьездах.

Дэпутаты, якія па сьпіску № 16 пападуць ад нас у Сойм і Сэнат, будуць шчыра бараніць **нацыянальныя правы Беларускага Народу, правы нашага працоўнага сялянства і работнікаў, грамадзкую, палітычную і рэлігійную волю для ўсіх грамадзян нашага краю бяз розьніцы нацыянальнасьці і веры.**

Іх клічам будзе: **На Беларускіх абшарах—уся зямля тутэйшаму працоўнаму сялянству!**

Нашы дэпутаты будуць усімі сваімі сіламі бароцца **процi крыўднай для нас польскай вайсковай калянізацыі**, процi захвату чужынцамі нашай зямлі, ад вякоў паліванай потам і крывёй беларускай.

Яны будуць бароцца процi ўсялякага **уціску працоўнага народу панамі - абшарнікамі, фабрыкантамі і камяннікамі**, будуць **бараніць дробных арандатароў** ад усялякіх крыўд з боку зямляўласьнікаў.

Яны будуць дабівацца дзяржаўнае **помачы пры павароце на Бацькаўшчыну ўцякачоў**, адбудовы урадам усіх зруйнаваных вайной гаспадарак, звароту на кошт скарбу ўсяго жывога і мёртвага інвэнтару.

Нашы дэпутаты, выбраныя па сьпіску № 16, будуць дабівацца ў Сойме і Сэнаце, **каб Беларусы былі запраўднымі гаспадарамі на сваей зямлі,** будуць дабівацца **аўтаноміі для ўсіх Беларускіх зямель** у межах Польскага Гаспадарства з сваім асобным Соймам у Вільні, — будуць дабівацца, каб нашы сыны адбывалі **вайсковую службу ў сваім краі** — дзеля абароны яго.

Урэшце, нашы дэпутаты будуць **змагацца з усялякімі гвалтамі з боку адміністрацыі,** пільнуючы, каб **права, закон і воля** запраўды запанавалі на нашай зямлі.

## Грамадзяне!

**Падавайце на выбарах у Сойм і Сэнат вашы галасы толькі за сьпісак**

**№ 16.**

Ня верце тым ворагам вашым, што будуць падшывацца пад беларускае імя і суліць вам другія нумэры. **Толькі на спіску № 16 упісаны запраўдныя байцы за волю права і зямлю Беларускага Народу.** Імёны іх усім даўно вядомы і служаць парукай, што яны не пашкадуюць сваіх сіл, здароўя і жыцьця, каб споўніць свае абяцаньні.

**Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт.**

**У нядзелю, 8 кастрычніка а 12 гадзіне дня у залі Драматычнае Майстоуні (Вострабрамская 9) адбудзецца Беларускі Перадвыбарны Сход.**

# Пустыя пагрозы.

Ворагі аб'яднаньня нацыянальных меншасьцей Польшчы пусьцілі ў ход брахлівую пагалоску, быццам стварэньне выбарнага блёку нацыянальных меншасьцей—гэта выступленьне проці польскае дзяржаўнасьці, гэта цяжкі праступак, за які улада будзе караць вінаватых.

Каб несьвядомыя людзі не падумалі, што гэта запраўды так, растлумачым, у чым справа.

Блёк—гэта ёсьць аб'яднаньне грамадзян Польшчы няпольскае нацыянальнасьці дзеля выпаўненьня ўстаноўленага законамі Польскага гаспадарства грамадзкага абавязку. Да Блёку належаць выключна толькі тыя беларусы, украінцы, расейцы, немцы, жыды, якіх польская ўлада прызнала грамадзянамі Польшчы, упісываючы ў сьпіскі выбаршчыкаў. Значыць, Блёк стварыўся на зусім законнай аснове, і ўсе пужаньні нас ворагамі Блёку—адна пустая брахня. Ніякая ўлада, калі яна сама пільнуецца законаў, ня можа ні ў якім прыпадку прасьледаваць і караць каго-колечы за прыналежнасьць да Блёку.

Ды гэтага мала. Трэба растлумачыць, чаму пускаюцца гэткія брахлівыя чуткі і каму страшны Блёк.

Як ведама, паводле польскае конституцыі запраўдным гаспадаром у Польскай дзяржаве зьяўляецца Сойм. Ад яго залежыць назначэньне міністраў, каторыя назначаюць усю адміністрацыю і адказваюць за яе пастункі перад Соймам. Сойм кожны мамэнт можа скінуць усіх міністраў і назначыць новых.

Калі ў Сойме, дзякуючы Блёку нацыянальных меншасьцей, акажацца многа паслоў *непалякоў*, дык ясна, што іх голас будзе мець вагу пры назначэньні ўраду—міністраў. Усе непалякі—ці то беларусы, ці ўкраінцы, ці жыды,—ведаюць лішне добра, як адносіцца да іх цяперашняя адміністрацыя. Ясна, што, калі зьбярэцца новы Сойм, дык няпольскія дэпутаты голасна заявяць з соймавае трыбуны аб усіх крыўдах, якія мы дазнаём ад адміністрацыі. Дый ня толькі заявяць, а зажадаюць зьмены адміністрацыі, зьмены ўраду, угледаючыся на тое, што конституцыя Польшчы забясьпечывае ўсім грамадзянам роўныя правы і забараняе ўладзе крыўдзіць тых ці другіх спаміж „інародцаў“ толькі затым, што яны—няпольскае нацыянальнасьці.

З гэтага вынікае, што ў нас найбольш павінны баяцца Блёку тыя агенты ўлады, якія пачуваюцца да віны перад «інародцамі», якія зачынялі і разганялі беларускія школы, грамілі беларускія каапэратывы, незаконна арыштоўвалі і прасьледавалі беларускіх дзеячоў. Але згодна з законам, яны ня маюць ніякага права прасьледаваць каго-колечы за прыналежнасьць да Блёку, істнуючага на аснове законаў Польшчы.

Наадварот, *кожнае незаконнае прасьледаваньне, кожны бясправны арышту часе выбарнай агітацыі на карысьць Блёку—гэта ёсьць парушэньне закону, ёсьць цяжкі праступак, за які раней ці пазьней вінавайцы будуць аддадзены пад суд.*

І баяцца пагрозаў, на якія ня скупяцца варожыя нам агітатары—панскія наймиты, нам няма патрэбы: гэта толькі пустыя словы.

**М. Малішэўскі.**

# Перад выбарамі.

## Беларускі перадвыбарны зьезд у Баранавічах.

27 верасьня, у м. Баранавічах, адкрыўся зьезд прадстаўнікоў павятовых і гмінных камітэтаў Навагрудскага Акругу. На зьезд прыехала каля 40 прадстаўнікоў з мандатамі ад сваіх камітэтаў.

Пасьля дакладу з месц, выясьнілася, што правінцыя шыбка арганізуецца і стаіць амаль ні аднагалосна за Цэнтральны Беларускі Выбарны Камітэт і за блёк нацыянальных меншасьцяў.

Сабраньне працякала нармальна і дзелавіта, пакуль раптам не зьявіліся на зьезд „генэрал“ Булак-Балаховіч з групай асоб, блізкіх яму, як напр. Адамовіч, Шурпа, Зямкевіч і інш. Адным словам змабілізаваліся усе чорныя сілы. Ні ў каго ня спытаўшыся, ці пажадана зьезду іх прысутнасьць, гэтыя паны з шумам увайшлі ў залю і занялі месцы. Булак-Балаховіч, Зямкевіч і інш. прадставілі ў прэзыдыум нейкія мандаты, якія, разумеецца, не маглі быць прызнаны правідловымі, бо зьезд адбываўся на аснове прынятай на папярэднім зьездзе пастановы, што на зьезд 27 верасьня ў Баранавічах пасылаюцца дэлегаты па 1-му ад гмінных і па 2 ад павятовых камітэтоў.

Балаховіч папрасіў слова і стаў гаварыць на тэму аб сваіх заслугах па адваяваньню бацькаўшчыны ад бальшавікоў, што дае яму права на мандат. Часта поўтараючы словы: „я ваш бацька“, „я ваш гэнарал“, «вы мае сынкі», „я вас вызваліў“,—Балаховіч выстаўляе самаго сябе нацыянальным беларускім героем, а усіх іншых беларускіх дзеячоў называе камандзірамі без салдат, узводзячы на іх розную брахню. Далей Балаховіч рассказывае, як ён бараніў жыдоў ад пагромаў, так што выглядала, што Балаховіч першы прыяцель жыдоў, якія ня ведама чаму так баяцца гэтай дружбы. Закончыў Балаховіч сваю гадзінную прамову прызывам ісьці за ім на выбарах. Але на яго прызыў адгукнуліся толькі тыя, хто з ім прышоў. Прадстаўнікі камітэтаў прамаўчалі.

Пасьля Балаховіча забіралі голас, як прадстаўнікі камітэтаў, так і з групы Балаховіча, прамовы апошніх насілі пагражаючы характар.

Зэленадубец Адамовіч (Дзяргач) пагражаў сваім палітычным праціўнікам „выпусьціць мазгі“ і г. д. Пасьля такіх пагромных прамоў у залі запанаваў прыгнечаны настрой. Абвешчан быў перарыў, пасьля якога сход адчыніўся ў другім памешканьні. Публіка, якой сабралася досыць многа, рыхтавалася быць сьведкамі войстрага змаганьня паміж праціўнікамі і староннікамі Блёку. Скоро гэтае змаганьне распачалося. Выступілі тры аратары проціў блёку: Балаховіч, Паўлюкевіч і Зямкевіч, а пасьля іх тры—за: Рагуля, Амельяновіч і Кахановіч.

Пасьля дзікіх выхадак з боку гэтай чорнай хаўрузіі, здраднікаў Бацькаўшчыны, прэзыдыум зьезду пераканаўся, што далей немагчыма вясьці супольна працу і запрапанаваў староннікам блёку пакінуць залю, і вясьці зьезд у другім месцы, штояны і зрабілі. Вельмі не спадабалася гэта безмандатным праціўнікам блёку. Гэтыя апошнія засталіся у дэпо і распачалі свой сход, але скоро пасварыліся паміж сабою і ні да чаго не дайшлі.

На другі дзень прадстаўнікі павятовых і гмінных камітэтаў сабраліся ізноў. Былі прысутнымі усе, апрача 2-х. Усе рэзолюцыі і пастановы зьезд прыняў дружна і згодна з кірункам Цэнтральнага Беларускага Камітэту, якому выказаў падзяку за папярэднюю працу і поўнае даверые.

Прыводзім рэзалюцыю аб адносінах зьезду да праціўнікаў блёку:

1) Пратэставаць проціў дзікіх і антыграмадзянскіх выступленьняў тых асоб з памянёных групіровак, якія зьявіліся без мандатаў на зьезд прадстаўнікоў павятовых і гмінных камітэтаў і сваімі выступленьнямі стараліся пашкодзіць працы вышэй указаных прадстаўнікоў.

2) Лічыць гэтыя іх крокі праступленьнем проціў беларускага народу карысным для яго ворагаў.

3) Зьвярнуцца да ўсяго беларускага грамадзянства з прызывам зарганізавацца ў падтрыманьні „блёку нацыянальных меншасьцяў“.

4) Пратэставаць проціў брудных закідаў ворагаў блёку быццам, ідучы ў блёку, мы, беларусы, вядзём барацьбу з польскай дзяржаўнасьцяй і зьяўляемся здраднікамі Польшчы. Мы, беларусы, заяўляем, што змагаемся за сваю лепшую будучыню, за правы нашага народу ў Польшчы, нарушаемыя цяпер, ад чаго церпіць сама Польская дзяржава. Мы пратэстуем проціў правакатарскіх заяў нашых ворагаў, быццам ідучы з „блёкам нацыянальных меншасьцяў“ мы, беларусы, змагаемся з Польскай дзяржавай.

## Рэзалюцыя прадстаўнікоў павятовых і гмінных беларускіх выбарных к-таў Лідзкага выбарнага Акругу.

Заслухаўшы даклад аб зьездзе прадстаўнікоў павятовых і гмінных беларускіх выбарных камітэтаў Навагрудзкага выбарнага Акругу, адбыўшагася 27 і 28 верасьня 1922 г. у м. Баранавічах, зьезд прадстаўнікоў Лідзкага выбарнага акругу, адбыўшагася 3 кастрычніка 1922 г. у м. Вікьві пастанавіў: 1) пратэставаць проці выступленьняў п. п. Булак-Бала-

ховічаў, Паўлюкевічаў, Дзергачоў—Адамовічаў, Земкевічаў і так званых „беспартыйных актывістаў“, якія сваімі выступленьнямі на беларускіх зьездах уносяць разлад у беларускія сплачоныя рады і тым самым памагаюць польскай чорнай сотні ў барацьбе з беларускім народам.

2) Патрэбаваць ад польскай улады, каб надалей у перадвыбарнай агітацыі ня ўжываліся дзікія спосабы барацьбы палкамі і рэвольверамі з працаўнікамі беларускага народу, што мела мейсца ў Баранавічах 27. IX-22 г.

3) Паступкі вышэйпомяненых паноў паказываюць нам, што пад беларускім штандарам, яны робяць правакатарскую працу не на карысьць беларускага народу, а толькі на карысьць польскай чорнай сотні і паноў.

4) Прызваць увесь беларускі народ аб'еднацца каля Б. Ц. В. К., які з'яўляецца адзіным праўдзівым прадстаўніком і абаронцам нашых правоў і інтарэсаў.

*Старшыня Зьезду* **А. Луцкевіч.**
*Сэкрэтар* **Я. Гаўрылік.**

### „Wyzwolenie“ канае.

Ад працы Цан. Бел. Выбарн. К-ту „Wyzwolenie“ зьнікае, быццам сьнег ад сонца і трэба спадзявацца, што неўзабаве гэтая польская няшчырая для нас партыя зусім згіне. Так, у м. Карэліцы камітэт „Wyzwolenie“, які складаўся з беларусаў, даведаўшыся аб працы Б. Ц. В. К. перайшоў на родны грунт, а старшыня к-ту заснаваў Беларускі Выбарны Камітэт, куды быў выбраны таксама старшынёй.

На ст. Молчад агітатары „Wyzwolenia“ вылясшы з вагонаў, пачалі агітаваць. Нашліся людзі, якія закінулі колькі слоў і за беларускі сьпісак. Зразу народ згуртаваўся каля іх і пачаў праганяць вызваленцаў, а як падышлі рабочыя станцыі ды больш энэргічна заступіліся за беларусаў, дык вызваленцам нічога больш не аставалася як сесьці ў вагон і з нічым ад'ехаць.

### Выбарны календар.

12-га кастрычніка апошні тэрмін падачы заяў аб згодзе выстаўляць сваю кандыдатуру ў выбарных сьпісках.

### Перадвыбарная „свабода“.

— Нішчаць беларускія газэты. З Браслава паведамляюць, што ні адна беларуская газэта не даходзіць да іх. Кожнага номару «Беларускага Звону» пасылаецца па 27 адрасох.

— У Гарадзейскай гміне,з мэтай напужаць насяленьня, паліцыя робіць паўсямесна вобыскі. Былі выпадкі, што ўры лапросах білі.

**Пад номярам 16 аб'едналіся ўсе пакрыўджаныя народы ў Польшчы. У грамадзе—сіла!**

**Воля і лад у нашых руках!**

**Як пасцелімся, так і высьпімся.**

## Беларусы! Неадкладаючы выбірайце на кожны выбарны абвод давераных ад грамадзянства.

# Дзесяць запавядзей.

1. Толькі Беларускі Выбарны Камітэт ёсьць тваім, сялянін, абаронцам. Ня вер ніякім іншым.

2) Не ствaрай сабе куміра з „Вызваленьня“, альбо „Пяста“, альбо „Рады Людовай“, альбо іншых польскіх партыяў, а ні ў гарэ—горадзі, а ні ў нізі—ў вёсцы не кланяйся ім, ня слухай, іхніх нагавораў і не услужыся ім сваім голасам.

3) Прызывай на падмогу і галасуй толькі за беларускага кандыдата, а ня польскага, бо дарэмна будзе ўся твая на яго надзея.

4) Помні дзень нядзельны 5 лістапада, калі павінен падаць голас за свой, № 16 беларускі сьпісак кандыдатаў да Сойму, а 12 лістапада да Сэнату. Адзін месяц рыхтуйся да выбараў, арганізуйся і тады дзень выбараў будзе тваім сьвятам, бо ўсе твае крыўды стануць вядомы ўсяму сьвету.

5) Уважай свой беларускі камітэт, за матку і бацьку свайго, які цябе бароніць, а за гэта часта пакутуе. Вер толькі яму і доўгія годы шчасьліва пражывеш на зямлі.

6) Не забівай сваей Бацькаўшчыны і дзяцей сваіх, а дзеля гэтага галасуй за беларускі сьпісак **№ 16**, які для дзяцей даб'ецца роднае беларускае школы, надзеліць замлёй, чаго табе польскія партыі ня хочуць даць.

7) Ня вер польскім партыям і іх агітатарам, нібы народным, якія толькі на словах абяцаюць рай, а ў запраўды стварылі пекла.

8) Не абкрадай сваіго народу, аддаючы свой голас за чужы сьпісак. А дай голас толькі за свайго кандыдата, за свой сьпісак **№ 16**.

9) Ня слухай, што табе на беларусаў, альбо на наш сьпісак **№ 16** будзе гаварыць які нябудзь польскі агітатар; сам ня слухай, ня вер і другім кажы каб ня верылі.

10) Чужога не жадай, але і свайго ня давай: ані зямелькі сваей, ані каровы, ані школы. Шануй сваё і добра табе будзе і доўгія годы пражывеш на сваей беларускай зямельцы.

## Польская адміністрацыя зьдзекуецца над беларусамі.

З 1-го сакавіка г. г. да гэтаго часу (восьмы месяц) у Беластоцкім астрозе гнібея без суда больш 10-ці беларусаў. На іх дамаганьні зьмягчыць рэжым, былі пасаджаны ў карцар на 14 дзён на хлебе і вадзе. Арыштаваныя аб'явілі галадоўку. Судзьдзя следчы абецае справу направіць у суд толькі аж у ліпні будучага году.

## „Бацька“ Балаховіч рабуе наш Край!

Вядомы сваей благой славай „генарал“ Булак-Балаховіч, які з бандай „зялянадубцаў“ езьдзіць пяпер па Беларусі і пагрозамі стараецца запужаць народ, каб не выбіраў у Сойм беларусаў,—на кожным кроку заяўляе аб сваей „любві“ да Бацькаўшчыны, ці, лепш, „отечества“, бо-ж гэты панскі наймит не гаворыць інакш, як па маскоўску ці па польску! А якая гэная „любоў“ яго,—гэта паказваюць ягоныя учынкі.

Аказалася, што за верную службу палякоМ „Бацька“ дастаў падрад ад ураду на выруб 12.000 дзесяцін лесу ў Белавежскай пушчы. У яго працуюць пры гэтай нягоднай рабоце каля 2.000 ягоных салдатаў, 120 парных падвод, 10 грузавых аўтамабіляў, ды звыш 10 вярстоў вузкакалейкі. Дзеля выпаўненьня падраду гэты пагромшчык жыдоў разам стаўся такім-жа жыдоўскім „Бацькам“, як і нашым: ён зрабіў хаўрус з жыдоўскімі спэкулянтамі (Рэзьніком і др.), якія не саромяцца дзеля грошы ціснуць ягоную руку, запэцканую крывёй жыдоўскага народу.

Памятайце, Беларусы, хто рабуе наш край!

